# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

ГОД ВЫДАНЬНЯ 5

ЛІПЕНЬ 1933

№ 11





## АКЦЯБРАЦКІ ЛАГЕР



Сотнямі радасных дзіцячых галасоў загаманіў рабочы пасёлак „Камінтэрн".

Ад горада Бабруйска да пасёлка 28 кілёмэтраў. Шасою прымчалі сюды аўтамабілі 76 акцябрат і 320 піанэраў. Весела было ехаць, толькі слупы тэлеграфныя мігцеліся. А як прыехалі, — пазлазілі з аўтамабіляў і пайшлі па свае кватэры.

Акцябраты ў рабочым клюбе, каля самае шасы, два невялікія пакойчыкі занялі. А піанэры трохі далей—будынак Глушскае сямігодкі. І адзін будынак і другі—зусім новыя. Чыста ў іх, сьветла.

Весела цяпер у рабочым пасёлку. Цэлы дзень песьні то з аднаго, то з другога боку даносяцца. Іграе гармонік. Ня сумуюць тут ні акцябраты, ні піанэры.

— Проста другім стаў наш пасёлак, як лагеры тут адчыніліся, — кажа работніца з гуты. І сапраўды, цішыня лясная звонкімі галасамі загаварыла.

— Нам тут вельмі весела,—кажа **Шмакаў Барыс**, той самы Бора з 17-й школы, якога тры разы прэміравалі за два гады яго вучобы.

— А ўвосень, як пачнуцца заняткі, я яшчэ лепей вазьмуся за вучэньне. Мяне сёлета як лепшага ўдарніка і ў лагеры паслалі.

— Ня толькі ты ўдарнік, — перапыняе Бору **Гельфанд Х'ена**. — Я таксама добра вучылася. Мяне два разы прэміравалі.

А вось стаіць маленькі, смуглявы Грыша Гінзбург. Жвавы хлопчык. Яму толькі дзевяты годзік, а ён перайшоў ужо ў трэцюю групу. Ён добра вучыўся, і яго паслалі ў лагер.

Такіх лепшых ударнікаў тут многа. Іх не пералічыш усіх.

* * *

Ласкавае сонейка шчыкоча сваімі праменьнямі лагернікаў, будзіць іх. Іграе зайчыкамі па сьцяне. Спакойна сьпяць акцябраты. І так да 9 гадзін, а тады абуджаецца лагер.

Скоранька выбягаюць акцябраты на фізкультурную зарадку. Гэта толькі пачатак дня. Наперадзе яшчэ розныя гульні, заняткі.

Ім яшчэ будуць іграць на пацефоне. Разам з настаўніцаю пойдуць яны ў лес на экскурсію. Там будуць знаёміцца з расьлінамі, правядуць гутарку аб тым, як усьцерагчыся хваробы, будуць вывучваць новыя песьні.

— Я люблю слухаць, як настаўніца чытае нам кніжкі. Яна цікавыя апавяданьні расказвае, а мы ўсе слухаем, — кажа **Чайка Міхась**.

А сёньня на занятках акцябраты чыталі калектыўна сваю часопісь **„Іскры Ільліча“**. Спадабалася. Парашылі пра сваё жыцьцё напісаць у часопісь. Няхай другія прачытаюць.

Хочацца ім як найлепей расказаць пра жыцьцё сваё ў лагерах. Ды расказаць так, каб і добрае і дрэннае ўбачылі другія.

І **Корбут А**. піша ў сваю часопісь:

— З намі добра абыходзяцца ўсе—і цёця Тамара (начальнік лагера), і наша настаўніца, і важатыя. Нам весела тут.

А **Фаня Кац** дапаўняе Корбута:

— Нас добра кормяць тут. Мы 5 разоў ядзім на дзень. Мы новыя песьні вывучаем.

— Мне так весела тут, што аж дахаты ня хочацца ехаць,—піша Гарэлік Міня.

Другое заўважыў **Беня Альтшулер**:

— У нас няма вешалкі і ўмывальніка. Мы бяром ваду ў кубкі і гэтак мыемся,—піша ён.

Але гэта ня ўсё. Недахопаў там ёсьць і больш. Вось вады гатаванай доўга ня было ў лагерах, а акцябраты пілі сырую. Ад гэтага захварэць можна. І за сталамі сядзець цесна, як сядуць есьці. Кніжак таксама малавата. Не паклапаціліся загадзя аб гэтым кіраўнікі лагераў. І спаць было цесна першыя 7—8 дзён. Адзін каля аднаго клаліся, не павярнуцца.

І толькі праз некалькі дзён рашылі кіраўнікі наняць акцябратам яшчэ два пакоі.

Цяпер прастарней стала: кожны акцябронак на сваім сяньніку сьпіць. І вада гатаваная ёсьць.

* * *

Скора бяжыць час у лагерах. Загартуюцца тут акцябраты на вольным паветры, на сонцы, адпачнуць, паправяцца. А там, неўзабаве, зноў за вучобу возьмуцца. Будуць яшчэ з большаю ахвотаю вучыцца, набываць веды, каб стаць добрымі будаўнікамі сацыялізму.

**АЛ. ПАЛЬЧЭЎСКІ.**



Смачным бывае абед у лагеры пасьля гульняў і заняткаў.



Кожны дзень акцябраты ў лагерах праводзяць „мёртвую гадзіну“.

# РАНІЦА Ў ЛАГЕРЫ

Ружовай роснай раніцай
Вясёлы ўсход румяніцца,
Ачнуўся гай і бор.

І іскрамі агністымі,
Калёрна-прамяністымі
Залоціцца прастор.

Хвіліна, і прывычную
Мы чуем песьню зычную —
Іграе горн.

А гэтай песьні раніцай,
Як рэхам адгукаецца
Шумлівы хор.

Прачнуўся лагер. Звонкаю
Загаманіў гамонкаю
Прывольнага жыцьця.

І птушкаю чырвонаю
Над плошчаю зялёнаю
Красуецца ўжо сьцяг.

***

Вось гуртам ля крыніцы
Сьцюдзёнаю вадзіцай
Палошчацца дзятва.

А там усьлед зарадка.
— Гэй, стройся па-парадку!
Жывей! Раўней! Раз-два!

І дружна рад за радам
Згуртаваным атрадам
Мы стройна ідзем.

Бадзёрымі шагаем.
І гэтак пачынаем
Свой дзень.

А. ЯКІМОВІЧ.



# НЯНЬКА

Апавяданьне Л. Чарняўскай
Малюнкі Давідовіча



I

Парасцы ўжо шэсьць гадоў, а Яначку толькі першы канчаецца.

Параска вялікая, а Яначка малы. Але малы гэты такі цяжкі камёлак, што Параска з сілы выбіваецца, носячы яго.

Матцы некалі, яна то на рабоце, то на калгасных сходах час праводзіць, бацька на пчалярскія курсы вучыцца паехаў, дык з малым усё Параска ды Параска.

Сёньня ў маткі выхадны дзень. Але і сёньня яна ў хаце не засядзелася. Пакінула Параску даглядаць хлапчука, толькі, выходзячы з хаты, сказала:

— Ну, дачушка, даглядай тут малога, можа, нядоўга прыдзецца табе пакутваць з ім.

А праўду кажучы, пакута для Парасці такі і не малая. На дварэ вясна. Хоць яшчэ толькі пачатак вясны, але сонейка вясёлае, неба сіняе, ветрык ласкавы. Крычаць, заліваюцца пеўні на дварэ, рыкаюць каровы ў хлеве, пачуўшы вясну, і сьмешна падбрыкваюць цялятні, ідучы на вадапой.

Ня бачыш, ня чуеш ласкі веснавога сонейка, павеву ветрыка, седзячы ў хаце. А з малым—куды пацягнешся? Доўга з ім ня выстаіш, а ў гразь не пасадзіш.

Спачатку Параска сумленна забаўляла брата. У далонькі пляскала, за ручкі вадзіла, сама бегала на чатырох лапах па падлозе. Яначка разьвесяліўся і шчыра рагатаў, гледзячы на Параскіны штукі.

Нарэшце, Параска стамілася і села адпачыць ля вакна. І такім ясным і сьветлым быў веснавы дзень, так галасна ціўкалі вераб'і, шэрымі камочкамі ўсыпаўшы вуліцу, што Параска ня вытрымала такі.

— Што яму зробіцца, калі адзін трохі пасядзіць у хаце,—падумала. Паднесла ўсе яго цацкі: кацёлачкі, кіёчкі, брусочкі, пасадзіла малога, цацкамі абложыла, а сама скоранька шась за дзьверы на двор.

II

Параска стаяла на ганачку, прыхінуўшыся да слупа і глядзела, як на вуліцы гулялі дзеці.

Раптам з хаты даляцеў прарэзьлівы Яначкаў крык. Прыбегла Параска ў хату і адразу ўбачыла, як нагаспадарыў тут без яе малы брат. На падлозе ляжала разьбітая міска і параскіданыя аладкі. Усё гэта Янка сьцягнуў са стала разам з настольніцай.

Што ты гэта натварыў, га?!—у роспачы пыталася ў яго Параска. Але малы нічога расказаць ня ўмее—ён плакаў, што меў сілы, паказваў на руку.



**Яначка ніколі з катом ня дружыў.**

Убачыла Параска абдзёртую Яначкаву руку, здагадалася, што гэта катова работа, бо Яначка ніколі з катом ня дружыў. Кінулася яна ката біць, а той высока на палаткі залез—не дастаць яго.

Ня справілася Параска падабраць аладкі, як вярнулася маці. Спалохалася Параска: добра ўшчуне маці яе за пабітую міску, за недагледжанага Яначку.

Вохнула маці спачатку, убачыўшы, які непарадак натворан у хаце, потым схапіла зарумзанага Яначку на рукі і давай яго песьціць і цалаваць.

— Ня плач, дачушка, і ты. Шкода міскі і аладак, але што з вамі зробіш. Будзе і табе радасьць. Прыяжджала сёньня на сход нейкая настаўніца з гораду, расказвала пра ясьлі і пляцоўку для дзяцей. Мы і самі раней пра гэта думалі, а тут нам дапамогу даюць - кіраўніцу прысылаюць, дык сёньня пастанавілі, каб на ўсё лета былі ў нас ясьлі,—і маці, падкідваючы на руках малога Яначку, гаварыла, радавалася: „эх, ты мой малышок! Будзеш і ты дагледжаны, будзе і маё сэрца за вас абаіх спакойна“.

Нарэшце прышоў гэты чаканы дзень. У калгасе адчынілі ясьлі і дзіцячую пляцоўку. Ясьлі былі ў хаце на правы бок сянец, а пляцоўка—на левым. Прывялі і прынесьлі маткі дзяцей, і большых і меншых. Аж дзіўна, што іх так многа, калі ўсе разам сабраліся.

Дзеці спачатку дзічыліся—ні з матчыных рук, ні ад матчынай спадніцы. Параска таксама пазірала з-пад ілба і хоць вельмі зацікавілі яе прывезеныя з гораду цацкі, падходзіць да іх не адважвалася. Першы падышоў Сымонка і адразу схапіў у рукі аўтабус і пачаў уважліва аглядаць яго з усіх бакоў, паспрабаваў, ці добра круцяцца колы, і нарэшце пакаціў аўтабус на падлозе. А кіраўніца, што прыслалі з гораду выхоўваць дзяцей, трымае кніжкі з малюнкамі ў руках і паказвае іх дзецям.

Незаметна, бягуць дні за днямі, прывыкаюць дзеці да новых гульняў, да кіраўніцы.

Вось Параска забаўляецца: яна разглядае часопісь, якую нядаўна прывезла з гораду цёця Тася. Старонкі ў кніжцы шырокія, вялікія, а малюнкі такія, што колькі разоў не глядзі—усё цікава. Усю кніжку спачатку з цёцяй Тасяй пераглядзелі, а цяпер Параска яшчэ раз уважліва пераглядае кожны малюнак.

У гамонках, у гульнях, песьнях, у пагулянках у лес, у поле,—хутка бягуць дні.

Вечарам прыдуць маткі, забяруць сваіх дзяцей з ясьляў, прыдзе і Парасчына маці па Яначку.

— Ой, мамачка, як нам добра тут,—кажа Параска. Яна радуецца, што збыла Яначку з сваіх рук на рукі кіраўніцы. Але ўсё-ж такі ўвечары яна яшчэ з ахвотаю пагуляе гадзіну—другую з Яначкам.



**Параска ўважліва праглядае кожны малюнак у часопісі.**

# Ноч у Бэрліне



Верш ПЯТРУСЯ БРОЎКІ
Малюнкі Н. МАЛЕВІЧА

*Германскія фашысты паляць на кастрох камуністычныя кнігі і творы выдатных пісьменьнікаў. Да такога зьверства і дзікасьці маглі дайсьці толькі самыя заядлыя ворагі працоўных — фашысты.*

Быў буржуй вясёл і рад —
Фашыстоўскі йшоў парад
Па асфальту: бац!.. і бац!..
Як зьвяры, ішлі на пляц.
На. начны даждлівы брук
Шар бярвеньня клалі ў круг,



Потым лілі газаю,
Каб спаліць з „заразаю“
Кніжкі, што машынамі
Везьлі з крыкам, з кпінамі.
Іх з машын здымалі,
На агонь кідалі.
Ўсё спаліць дачыста
Заклікаў міністар.
Ён да вогнішчаў ахвоч —
Пляц ў агні стаяў усю ноч.
Газы больш прасіў падліць —
Рэвалюцыю спаліць.
Сам кідаў ў дакоры
Ленінскія творы.
Было шмат там спалена
Кніжак Маркса, Сталіна.
Фашыстоўскі гонар жыў —
Над Бэрлінам дым чадзіў.

———

Вось прайшоў каторы час —
На пляцы агонь пагас.
Начыста спалілі,
Толькі ня ўлічылі
Фашыстоўцы ўсе таго,
Што не гасьне той агонь,—
Ён гарыць ўсё вышай,
Бо па гэтых кніжках
І удзень і ўночы
Вучыцца рабочы.



# БЕЛЫ МЯДЗЬВЕДЗЬ

Апавяданьне Ф. ПЕРКІНСА.

Міні і Моні жывуць на далёкай Поўначы, дзе толькі чатыры месяцы бывае лета, а восем месяцаў зіма.

Зімою чатыры месяцы Міні і Моні зусім ня бачаць сонца. А ўлетку чатыры месяцы ня бывае тут ночы—відно і відно.

Міні хлопчык, Моні дзяўчынка. Ім па пяць гадоў—яны блізьняты.

Бацька іх называецца Кешу, а маці Кулі.

Кешу, Кулі, Міні і Моні жывуць у маленькай хацінцы, якая называецца „іглу". Разам з імі жывуць яшчэ два сабакі Ніп і Топ.

Кешу лічыцца найлепшым рыбаловам і паляўнічым у калгасе, а Кулі ўмее добра шыць з зьвярыных скур вопратку і абутак.

***

Аднойчы раніцай Міні і Моні, Ніп і Топ выпаўзьлі з доўгай сьнегавой трубы, што выходзіла з іхняй хацінкі.

— У што мы будзем гуляць?— спытала Моні.

— Давай паклічам Коко ды павозімся з гары, — прапанаваў Міні.

— Добра! — сказала Моні: — бяжы па санкі!

У Міні былі невялічкія драўляныя санкі. Гэтыя санкі бацька зрабіў яму з прыплыўшага дрэва. У другіх хлопцаў санкі зроблены з вялікіх кавалкаў лёду.

У эскімосаў няма дрэва. Толькі калі-ні-калі мора прынясе на сваіх хвалях бервяно ці дошку. Дрэва эскімосы шануюць. Яны робяць з яго толькі пікі ды вялікія сані, у якіх запрагаюць сабак.

Міні прыбег з санкамі і затым усе чацьвёра памчаліся да Коко.

Коко было 6 гадоў. Гэта быў першы прыяцель блізьнят.

У кожнай „іглу", над самым комінам, цьмяна сяяцілася жоўтым колерам акенца.

Насупраць хацінак было мора. Шырокая палоса яго, уздоўж берагу, была замарожана. Далей, за лёдам, віднелася цёмная вада.



Нідзе ня было ні дрэўца, ні кусточка, толькі белая зямля, скалы ды занесеныя сьнегам „іглу“, у якіх цьмянасьвяціліся вокны. А над усім гэтым—плыў месяц.

*
* *

Пачуўшы галасы дзяцей, Коко вышаў са свае хаціны.

Усе ўтраіх пайшлі на вялікую гару і пачалі вазіцца адтуль. А сабакі бегалі ўсьлед за імі, куляліся ў сьнягу.

Раптам сабакі навастрылі вушы, шэрсьць пастала ў іх дыбам.

— Сабакі пачулі нешта, — сказаў Міні.

Моні і Коко перасталі сьмяяцца і прыслухаліся. Бялізьняты і Коко былі дзецьмі сьмелых паляўнічых, яны ціхінька падкраліся к вялікай скале і выглянулі адтуль.

У гэты-ж час нехта страшна зароў. Гэта быў вялізарны белы мядзьведзь. Ён шукаў рыбы і быў злосны: усё кругом замерзла, і рыбы на беразе ня было.





Як толькі блізьняты і Коко ўбачылі мядзьведзя, яны кінуліся, як мага, наўцёкі.

*
* *

Прыбеглі дзеці ў „іглу“, і ўсе загаманілі разам.

— Мядзьведзь! Мядзьведзь!

Схапіў Кешу піку, а Кулі нож і абое вышлі з свае хацінкі.

Пачулі людзі брэх сабак і прачнуліся. Павыходзілі з пікамі і нажамі ў руках.

Сабакі кінуліся на мядзьведзя.

Як толькі падышоў Кешу блізка, мядзьведзь забурчаў і рушыўся на яго. Адважны Кешу кінуўся на зьвера і ўсадзіў яму піку ў бок. Піка пракнула сэрца мядзьведзя. Ён зароў, паваліўся на зямлю, перавярнуўся і скончыўся.

Усе рынуліся на мядзьведзя, абступілі яго і цешыліся з такой в я л і к а й здабычы.



# У ПУШЧЫ

Апавяданьне З. Бядулі
Малюнкі Е. Саматы

I

На балота, дзе хаваліся сяляне ад белапалякаў, прыбег хлапчук.

— Няхай спухну, калі гэта мана,—хрыплым голасам загаварыў засопшыся хлапчук.

— Што такое? Што здарылася?—пыталіся ў яго старыя людзі:—кажа хутчэй!

— Няхай спухну, калі гэта няпраўда!

Хлапчук яшчэ доўга паўтараў сваё „няхай спухну“, а потым расказаў:

— Я толькі з вёскі. Легіянэры даведаліся, дзе мы хаваемся. Ім сказаў зладзюк Бавэлчык.

— А, падліза панскі! — заскрыпеў ад злосьці адзін стары дзед і моцна вылаяўся.— Болей што даведаўся?

— Легіянэры сюды зараз прыдуць і забяруць нашых коняй і кароў. Бавэлчык іх зьбіраецца сюды прывесьці.

— Вось шэльма! Вось гад! Шчасьце будзе яго, калі выберацца ён адгэтуль разам з панскімі псамі, а то дадзімо яму ў рукі яго шальмецкую галаву—хай цацкаецца з ёю, як з гнілым гарбузом.

На балоце пачалася трывога. Мужчыны, кабеты і дзеці заварушыліся, разышліся ва ўсе бакі зьбіраць сваіх коняй і кароў.

— У барок трэба перабірацца праз Ціменку. Туды ня дойдуць. І ня гуртам ідзеце, а ў адзіночку,—закамандаваў дзед,—і голасу вялікага не падымаць.

Быў вясёлы летні поўдзень. Балотная палянка, абкружаная з усіх бакоў цёмнай сьцяною лесу, млела ад гарачыні.

Людзі ціха пацягнуліся да рэчкі Ціменкі. Перапраўляліся ў брод праз рэчку і зьнікалі разам з жывёлай у блізкай пушчы. Апошнім перабраўся праз рэчку сівы высокі дзед.

Здалёку чулася кулямётная стралянiна: „тра-та-та, тра-та-та“, нібы хтосьці рассыпаў боб па сухім гліняным таку.

„Гэта нашыя паўстанцы б'юцца з палякамі", падумаў дзед і ўсьмешка зьявілася ня яго сухім твары. Ён прыпомніў, як калісьці і ён з туркам біўся, але тады неяк войны былі інакшыя і ўсё жыцьцё было інакшае. Тады гвалтам цар гнаў людзей на бітву з невядомым ворагам, а цяпер людзі самі ідуць.

Усе маладыя хлопцы з бяднейшых сялян іхняй вёскі пайшлі на пана,—ды ня толькі маладыя, а барадатыя мужыкі пайшлі з віламі, з тапарамі.

— Эх, каб я быў маладзейшы!..

Тут грамада людзей сабралася ў адну кучу. Дзед падазваў падростка, які прынёс ім раней весткі пра белапалякаў і Бавэлчыка.

— Міхаська, ведаеш што? Трэба было-б зноў падбегчы паглядзець, што там у вёсцы робіцца. Толькі асьцярожна, каб цябе ня прыкмецілі.

— Няхай спухну, калі мяне прыкмецяць!— горача сказаў узрадаваны хлапчук.

— Ідзі і не марудзь там, варочайся адразу назад. Толькі не заблудзіся па дарозе.

Хлапчук шаснуў у лес і зьнік.



Паўстанцы падвялі Бавэлчыка бліжэй да вогнішча

Дзед глыбока ўздыхнуў.

— Але што-ж! Калі ня я, дык двое маіх сыноў б'юцца цяпер з ворагам. З мяне досыць.

Дзед апошнім схаваўся ў пушчы. Там ён далучыўся да ўсёй грамады, якая трохі асьмялела і гойкала ў лесе на жывёлу.

II

У барку дзесьці шорхала і шастала. Людзі востра прыслухоўваліся. Нарэшце зблізку затрашчала пад дрэвамі і пачуўся людзкі гоман. Усе паўскаквалі з сваіх месцаў і пачалі пільна ўглядацца. Ішло да іх некалькі чалавек, якіх вёў сюды хлопчык.

— Няўжо-ж легіянэры? — устрывожыліся людзі: у легіянэрскай форме, з бліскучымі брылямі на шапках...

— Вось дзе канец нашым конікам і кароўкам...

Легіянэры падышлі блізка. З імі разам ішоў моўчкі сусед—здраднік Бавэлчык, які па-францоўску трымаў рукі заложанымі назад, мабыць з вялікай гордасьці.

Пры гэтым хлапчук круціўся між легіянэраў, як уюн, і весела хіхікаў.

„Няўжо-ж ён іх наўмысьне прывёў?“ — падумаў дзед, і моцная лаянка сарвалася з яго вуснаў.

— Добры вечар, браткі!—сказалі „легіянэры“.

— Гэта-ж нашыя хлопцы!—закрычала весела грамада людзей, нашыя хлопцы прышлі!

— Белапалякаў мы ўжо выгналі адгэтуль,— сказалі паўстанцы, — у нас чырвоныя, нашыя. Белапалякі, уцякаючы, пакінулі свой абоз, дык вось мы адзелі іхнія вопраткі. А вось. госьця, Бавэлчыка, мы вам сюды прывялі. Хутчэй разлажэце вогнішча і гляньце на суседа нашага.

У адзін момант сабралі кучу сухіх сукоў і хутка разгарэлася вялікае вогнішча. Шугаў агонь уверх пышна чырвонымі языкамі, шыпеў і трашчаў на розныя лады.

Маладыя паўстанцы са стрэльбамі ў руках падвялі Бавэлчыка бліжэй да вогнішча, рукі яго былі зьвязаны за плячыма. Гэта быў мужык гадоў пад пяцьдзесят, кароткі, прысадзісты і шырокаплечы. На круглым твары цаглянога колеру тырчэлі сіваватыя тоўстыя вусы. Маленькія чорныя вочкі скоса пазіралі на людзей, пазіралі злосна і пудліва, як у злоўленага ваўка.

Бавэльчык жыў палясоўшчыкам у блізкага пана Бараноўскага, дзеля чаго і самога сябе напалавіну панам лічыў. Служыў легіянэрам, падказваў, дзе сяляне коняй хаваюць, дзе знаходзяцца паўстанцы.

— Чаму, Бавэлчык, прышоў да нас без белапалякаў?—запытаўся дзед.

Бавэлчык апусьціў галаву.

— Чаму ня ўцёк з сваімі панамі?

Бавэлчык маўчаў.

— Кажы!—злосна закрычаў дзед і таргануў Бавэлчыка за зьвязаныя рукі.

— Мы яго захапілі пры белапольскім абозе, калі ён капаўся ў вопратках салдацкіх, — сказаў адзін з пастанцаў.

— Шэльма ты! Зладзюга!—злаваўся дзед. Глыбока зірнуў ён на Бавэлчыка і моцна плюнуў яму ў твар.

Бавэлчык уздрыгнуў з ног да галавы і заскрыгітаў зубамі.

— Досыць!—сказаў адзіў з паўстанцаў,— вы тут да раніцы начуйце пры агні, а мы з Бавэлчыкам пойдзем. Марш, Бавэлчык!

Праз колькі хвілін увесь барок уздрыганууся ад грымотнага стрэлу.

Пошчакі разьнесьліся з усіх бакоў працягла і жудасна. Людзі ўсе падскочылі на сваіх мясцох.

— Бавэлчык дастаў па заслугах! — глуха прагаварыў дзед і спакойна задыміў люльку.

# ХТО ЧЫМ СЬПЯВАЕ

Апавяданьне В. БІЯНКІ





Чуеш, якая музыка грыміць у лесе?

Слухаючы яе, можна падумаць, што ўсе зьвяры, птушкі і казяўкі радзіліся на сьвет сьпевакамі і музыкамі.

Можа яно так і ёсьць — музыку любяць усе і сьпяваць усім хочацца. Толькі ня ў кожнага голас ёсьць.

Вось паслухай, чым і як пяюць тыя, што ня маюць голасу.

Жабы ў возеры пачалі яшчэ з вечара. Надзьмулі пухіры за вушамі, высунулі галовы з вады, раты паразяўлялі...

Ква-а-а-а-а!—у вадзін дух пранеслася іх песьня.

Пачуў іх бусел, які жыў у вёсцы. Зарадаваўся!

— Цэлы хор! Будзе мне добрая закуска! І паляцеў на возера сьнедаць.



Прыляцеў і сеў на беразе. Сеў і думае: „Няўжо я горшы за жабу? Сьпяваюць-жа яны бяз голасу. Давай і я паспрабую“.

Падняў доўгую дзюбу, застукаў, затрашчаў аднэй палавінкай дзюбы аб другую,—то цішэй, то мацней, то павальней, то часьцей,—трашчотка ды годзе!

Гэтак разышоўся, што і пра сьнеданьне забыўся.

— Вось дык песьня! — падумаў дзяцел, пачуўшы бусла з лесу.—Інструмант такі і ў мяне ёсьць. Чым дрэва не барабан, а нос мой чым ня палачка?

Хвастом упёрся, перадам адкінуўся, размахнуўся галавою ды калі застукае дзюбаю па суку! Ну, сапраўдны барабан



Вылез з-пад кары жук з доўгімі вусамі. Пакруціў, пакруціў галавою, заскрыпела яго цьвёрдая шыя, — тоненькі, тоненькі піск пачуўся. Пішчыць вусач, а ўсё дарэмна: ніхто яго ня слухае. Шыю натрудзіў, затое сам сваёю песьняй пацешыся.

А ўнізе, з-пад дрэва, вылез чмель і паляцеў сьпяваць на лужок. Ля красак круціцца, жыкае, усё роўна, як струна гудзе.



Разбудзіла чмяліная песьня зялёных конікаў у траве.

Пачалі конікі свае скрыпачкі наладжваць. Скрыпачкі ў іх на крыльлях, а замест смычкоў—доўгія заднія лапкі, каленцамі назад. На крыльцах зазубрынкі, а на лапках—зачэпачкі.

Трэ сабе конік лапкамі па бакох і так сьпявае.



— Эх,—думае даўганосы бакас, седзячы пад купінай, — трэба і мне пасьпяваць!

Выскачыў з-пад купінкі, успырхнуў, заляцеў пад самыя хмары. Хвост распусьціў, крыльцы выпрастаў, перавярнуўся носам да зямлі і памчаўся ўніз. Галавой паветра расьсякае, а ў хвасьце яго тонкія, вузкія пярынкі ветрам перамываюцца. І чуваць з зямлі, нібы ў гары ягнятка забляяла.

А гэта—бакас. Адгадай, чым ён сьпявае?

— Хвастом!

# Дзед і мядзьведзь

Верш Я. Коласа
Малюнак Е. Саматы

I

Кажа дзеду баба:
„Дзеду, з хлебам слаба —
Едзь у млын ты, дзедка!“
Млын ня страшан дзеду.
— Трэба, дык паеду,
Бабка мая кветка!
Дык гатуй сьняданьне —
Менш завозу зраньня,
Справа, бач, такая.
Паліць баба ў печы,
А дзед грэе плечы,
Сьнеданьня чакае.

II

Скавародка
Ходзіць лётка,
Спрытна ў бабіных руках.
Тыя-ж дровы
Роняць словы —
Трах-та-тах!
Трах-та-тах!
Скваркі ў печы
Штось да рэчы
Шэпчуць тэй скаварадзе,
А старэчы
Каля печы
Ім і сам у тон гудзе.

III

Дзед пасьнедаў ёмка,
Нават ікнуў громка.
Вось прыбраў наш дзед калёсы,
Колы дзёгцем квацануў,
Нацягнуў тужэй атосы,
Шчыльней загваздкі заткнуў.
І мяшкі паклаў дзядуня —
Дуж дзядок быў і здароў,
Па кабылу звольна суне, —
Дзед гарачкі не пароў.
А была ж у дзеда
Кабыліца гнеда,
Белагрывая,
Памаўзьлівая.

IV

Вышаў дзед, кабылу кліча:
„Кось-кось-кось!“
Ды „кось-кось-кось!“
Выган, гай прайшоў наскрозь,
Бо кабылін ведаў звычай.
Эх, кабылка, воўча мяса,
Ну, і шкодніца-ж яна!
Так і шворыцца адна,
Лезе ў шкоду самапасам.
А бадай-жа яе качкі!
Трэба ў млын, яе-ж няма!
Час той зводзіцца дарма
З-за кабылкі, з-за лайдачкі.
Дзед ідзе, а цемнавата.
Зірк — у грэчцы ходзіць штось.
„Знаю нораў твой, нябось,
І натуру твайго брата!
Патравіла грэчку троха...
Пачакай-жа, памаўзоха!“
Скраўся дзед і—хоп за грыву,
Ды вярхом і ў бок штурхец!
Як раўне-ж пад ім мядзьведзь!
Як памчыцца ў лес праз ніву!
Як задасьць ён ла-та-та!
Прэ' мядзьведзь наўскапыта.
А дзед бедны—дух у пятах.
Учарэпіўся за хіб,
Зьвера пынячы, ахрып.
„Тпррру, спыніся! стой, пракляты!
Тпру, мядзьведзік! бэч, мядзьведзь!“
А мядзьведзь—цялеп-кульгець!
Толькі мордаю трасе,

Дзеда ў лес імчыць нясе!
І набраўся-ж страху
Дзед з сваім мядзьведзем!
Гэтак даў ён маху—
Сьмех сказаць суседзям!
Як ён не разгледзеў
Ды сеў на мядзьведзя!
Беглі ельнякамі—
Біўся лес сукамі,
А галінкі-лапкі
Зьбілі дзеду шапку,
Аб бярозу-вітку
Разадраў дзед сьвітку,
А аб пень дубовы
Гуз набіў здаровы.
Бачыў лес пацеху,
Дзеду-ж не да сьмеху.
Пазіраў з бярлогу
На іх вепр іклаты,
Уступаў дарогу
Ім сам лось рагаты.
Цокала вавёрка
Ад такога дзіва,
Нават воўк з узгорка
Лыпнуў вокам скрыва.
А як зайчык згледзіў
Дзеда на мядзьведзі,
Ад тэй небясьпекі
Кінуўся наўцекі.
Злодзей тхор-выжыга
Толькі выскаляўся,
А лісок, псялыга,
Сосьмеху качаўся.
„Ой, зьвяры, вы мае братцы!
Памажэце мне сьмяяцца!“

V

Гасаў мядзьведзь, гасаў,
Насіў дзядка, насіў,
Аж сам сябе кусаў,
На ўвесь лес галасіў.
Зачапіўся лапцям дзед
За корч-патарчаку,
Адчыніўся тады сьвет
Дзеду-небараку.
Выпусьціў мядзьведзя з рук,
Гопнуўся, завохаў,
Распасьцёрся, бы япрук,
На зялёным моху.
„Вось брыда, мядзьведзь!
Адкараскаўся ледзь!
А бадай ты спрах!..
Аж гудзе ў вушах!“

VI

Прышоў дзед дахаты,
Ціхі, вінаваты.
І спытала бабка:
„А дзе-ж твая шапка?
Як табе ня брыдка —
Разарвана сьвітка!
Ой, ты дзед-дурыла—
У хляве кабыла!“
„Скажы дзякуй, баба,
Што прынёс я драбы!“





# У лясным гушчары

Апавяданьне Робэртса
Малюнкі М. Змудзінскага

**А**днаго разу дзядзька з хлопчыкам забраліся ў лясны гушчар паглядзець адтуль за дзікімі жывёламі. Панаглядаць тады, калі жывёлы аб гэтым нават і не здагадваюцца. Цікава паглядзець, як жывуць і што робяць палахлівыя стварэньні на волі.

Але перад адыходам дзядзька сказаў хлопчыку:

— Нам трэба будзе сядзець зусім ціха, нават не варушыцца. З-за кожнага кусьціка, з-за кожнага дрэўца і лісточка за намі будуць сачыць вострыя вочкі і іх будзе шмат. Яны будуць дзівіцца і думаць, што нам тут трэба? Ад самага нязначнага нашага руху ці шуму, яны спалохаюцца і разьбягуцца. Але, калі чалавек доўга не варушыцца, жывёлы пачынаюць лічыць яго за пень, за камень, або за якуюнебудзь іншую зусім няшкодную для іх рэч.



Куніца лёгка і асьцярожна паскакала па сьлядох.

Хлопчык уважліва выслухаў словы дзядзькі і сказаў, што ён не кране пальцам, ня зморшчыць носа нават, калі яго будуць кусаць камары.

Дзядзька выбраў вельмі зручнае месца для нагляданьняў. Тут быў вялізны пень, на які добра было абаперціся.

Сядзець не шавелячыся хлопчыку здавалася зусім ня цяжка. Але скора ў яго засьвярбеў нос: гэта ў самы кончык носа ўпіваўся камар.

Ад сьвербу і болю хлопцу пацямнела ў вачох, але ён вытрымаў і не крануўся. А калі камар адляцеў, хлопчык заўважыў на сваім голым калені вялікага жоўтага жука. Жук, мусіць, даўно ўжо поўзае па назе, разглядаючы, што гэта такое.

Хлопчык стаіў дух. Раптам сюды падбегла парачка зайчанятак з беленькімі, як сьнег, лапкамі. Адно зайчанятка дык проста пераскочыла праз дзядзькавы ногі, нібы гэта для яго былі зусім ня ногі, а яловыя карані. А другое прытулілася і пачало лопаць заднімі нагамі па зямлі.

Дзядзька з хлопчыкам здаваліся для іх нейкімі дзіўнымі карчамі.

Вялікія зікратыя вочы зайчанят аглядалі хлапчука з ног да галавы спачатку з нейкім



**Тут-жа каля іх зьявіўся ліс.**

страхам, а потым з цікаўнасьцю. Зайчаняткі стрыглі вушкамі, моргалі мордачкамі і, здавалася, нібы яны паміж сабою аб нечым раіліся. Нарэшце, яны перасталі глядзець на хлопчыка, селі на заднія лапкі і пачалі церабіць маладую травіцу. Потым паскакалі далей. Адно зайчанятка доўга азіралася назад, каб упэўніцца, ці не варушацца пад ёлкай два дзіўныя карчы.

Хлопчык задумаўся. Раптам з ёлкі, ледзь не пад самыя ногі хлопчыка, скочыў невялічкі зьвярок жаўтаватага колеру з выгінастым целам. Гэта была куніца. Выскаліўшы вострыя зубы на вузенькай завостранай мордачцы, яна ўтаропілася на хлопчыка. Палахлівы чырвоны агеньчык у яе вачох патух: яна ўпэўнілася, што хлопчык яе не зачэпіць.

Неспакойны чуткі носік яе ўсё абнюхаў і зараз-жа натрапіў на сьвежыя сьляды двух зайчанятак. Куніца лёгка і асьцярожна паскакала па сьлядох. Хлопчык падумаў: „Хаця-б яна іх не знайшла".

Але тут-жа каля іх зьявіўся ліс. Ён натапырыў вушы і, крыху схіліўшы галаву, павярнуў яе ў бок, дзе пачуўся піск лясной мышы. Ліса заўважыла сойка. Яна зьляцела на сучок ніжэй і пачала з усяе сілы крычаць. Здавалася, што гэтым яна перасьцерагала іншых жыхароў лесу:

„Сьцеражэцеся, у нашых мясцох туляецца разбойнік. Разбойнік, разбойнік!.."

Ліс са злосьцю паглядаў на гэту вар'яткусойку, якая перашкаджала яму шукаць пажыву.

На крык сойкі з усіх бакоў назьляталася шмат лясных вераб'ёў і рознай іншай лясной дробязі. Усе яны дапамагаюць сойцы сваімі трывожнымі крыкамі і піскам. Некаторыя падлятали да самай морды ліса і гэтым уводзілі яго ў злосьць.

Вось ліс адышоўся, і птушыны крык пачаў замаўкаць.

На прагаліне стала ціха—ніхто не зьяўляўся...

Хлопчык падумаў:

„Ото, цікава-б было пабачыць дзікую козачку, або лася. А што, калі з-за куста зараз шасьне мядзьведзь, або на ёлцы над ім зачмыхае рысь? Што яны тады будуць рабіць?

Як на тое, у бліжэйшых кустох нешта моцна зашастала і пачуўся трэск гальля.

...Выскачыў белы заяц. Ён бег з усіх сіл, быў да сьмерці напалоханы і тросься, як асінавы ліст: са страху ён ня ведаў, што рабіць. Прабегшы каля пня, зайчык палез у суседні куст. Хлопчык чуў там доўгае шастаньне і здагадаўся, што зайчык далей не пабег, а круціўся на адным месцы.

Прайшло ня больш як хвіліна часу. Па зайцавым сьледзе, не сьпяшаючыся, ішла куніца. Яна ішла спакойна і ўпэўнена, як той паляўнічы, які добра ведаў, што дзічына ад яго не схаваецца. Хлопчык зразумеў, што



**Зайчык палез у суседні куст.**



павінна здарыцца тут-жа на яго вачох, і зьненавідзеў драпежнага зьвярка.

Бадай што супроць самага пня куніца прыпынілася і пачала прыслухоўвацца. Потым яна кароткімі і лёгкімі скокамі пусьцілася ў кусты, дзе схаваўся перапалоханы заяц.

Праз момант з-за кустоў выбег бедны заяц, а за ім паказалася куніца. З жаласным піскам заяц закруціўся на адным месцы, амаль ля самых ног хлопчыка. Бедны зьвярок зразумеў, што яму ўжо няма ратунку, што праз хвіліну яго чакае сьмерць...

Куніца кінулася да сваёй спажывы, але ёй не ўдалося задушыць зайчыка. Хлопчыку стала моцна шкода яго. Ён усхапіўся, замахаў рукамі і крыкнуў. Куніца як маланкай спаліла. Зайчык апамятаўся і таксама ўцёк.

— Выбачай, дзядзячка, я ніяк ня мог вытрымаць! Ну, ніяк ня мог!—сарамліва гаварыў хлопчык, гледзячы ў зямлю.

— Ведаю, ведаю! — казаў, устаючы, дзядзька. Я цябе і не вінавачу. Мусіць, я сам зрабіў-бы тое самае, асабліва, калі пачуў гэты жаласны піск беднага зайца.

# ВАДЗЯНАЯ ПТУШКА

**Ці чулі вы калі-небудзь пра птушку, якая лётае ў вадзе? Ганяецца яна там за вадзянымі жучкамі, маленькімі рыбкамі, бегае па дне ракі, купаецца ў пяску і гразі.**

**Аднак-жа гэта ня выдумка: такая птушка ёсьць. І жыве яна ня так далёка — за граніцаю, у горных мясцовасьцях. Завуць гэту птушку па-рознаму: вадзяны верабей, вадзяны шпак, вадзяны дрозд. З выгляду яна такая-ж, як звычайная птушка. Нават перапонак няма на лапках, як у качкі, гусяці, лебедзя.**

**Начуе яна на беразе. А прачнецца, пасьпявае крыху — ды ў ваду. Цікава паглядзець, як спрытна яна там лётае, ня горш за нашых птушак сухаземных. Здалёку ўбачыць жучка якога ці рыбку і адразу зловіць.**

**Але доўга пад вадой яна ня можа быць. Праз кожныя паўхвіліны высоўвае дзюбку з-пад вады, каб набраць сьвежай паветры. Увечары выходзіць з вады, крыху пасьпявае і засьне.**

**Цікава, што яна жыве так і зімою. Таксама праводзіць ноч на беразе, таксама плавае ў вадзе і пад лёдам. Але гэта бывае там дзе рэкі ня зусім замярзаюць, — у горных мясцовасьцях.**



# ЧАЙ І КАВА

Цяпер амаль ні аднаго акцябронка ня знойдзецца, які-б ня ведаў, што такое чай або кава. Але мала хто ведае, як і калі трапілі да нас упяршыню чай і кава.

Гадоў 350 таму назад да эўрапэйцаў дайшлі чуткі аб дзіўным пітве, якое ўжываюць кітайцы і японцы. Казалі, што гэтае пітво дае людзям доўгае жыцьцё.

У 1610 годзе чай быў упяршыню прывезены ў Эўропу. (А ў Расіі чай зьявіўся яшчэ на 100 гадоў пазьней).

Прывезьлі чай у Эўропу галяндзкія купцы з далёкай выспы Явы. Як вядзецца, купцы пачалі выхваляць свой тавар. Яны называлі чай боскаю травою, раілі піць яго па 40—50 кубкаў за дзень. Адзін галяндзкі доктар ад усіх хвароб прыпісваў толькі чай заместа лякарстваў.

А сапраўды—чай зусім не трава. Яго робяць з лісьцяў чайнага дрэва. Чай таксама не зьяўляецца і лякарствам. Моцны чай нават шкодзіць здароўю.

Як ні стараліся купцы збыць як найбольш чаю, яго пілі спачатку толькі багатыя, бо каштаваў чай тады вельмі дорага.

Скора ў Эўропу трапіла і кава. Французскія купцы, якія езьдзілі ў Турцыю, ужо даўно апавядалі пра туземнае дзівоснае дрэва.

— З насеньня таго дрэва туркі робяць пітво, якое называюць ні то „кавова", ні то „кофа" і якое п'юць замест віна ў карчмах. Пітво гэтае адганяе смутак, умацоўвае здароўе, робіць чалавека дужым,—гаварылі купцы.

Неўзабаве кава зьявілася на абедзе ў французскага караля. За каралём пацягнуліся герцагі, графы, купцы, дактары. Было адчынена шмат кавярняў, у якіх людзі праседжвалі цэлымі днямі.

Былі, аднак, у кавы і ворагі. Адны лічылі, што каваю можна спаліць нутро і што ўжо ёсьць такія выпадкі. Другія гаварылі, што кава скарачае жыцьцё, ад кавы хварэюць людзі. Яны кляліся, што ніколі ня будуць піць „сажу з вадою". Так называлі каву ворагі.

Прайшло некалькі дзесяткаў гадоў і чай, а таксама каву сталі ўжываць усе людзі.

Да гэтага часу свайго чаю ў Савецкім Саюзе не хапае. Мы прывозім яго з-за мяжы. Праўда, кожны год гэты прывоз зьмяншаецца, бо мы пашыраем сваю плошчу з чайным дрэвам. Разводзяць у нас чай у Грузіі (на Каўказе)

К канцу другой пяцігодкі ў нас будзе хапаць свайго чаю, ня прыдзецца прывозіць чай з-за мяжы і плаціць за яго вялікія грошы.







Уважліва разглядзеце гэтыя малюнкі і складзеце апавяданьне аб прыгодах з хлопчыкам Пятрусём.

ЦАНА №—50 КАП.



Намалюйце на чыстай паперы ўсе гэтыя часткі — фігуры. А цяпер складзеце з іх каня-скакуна, такога, як на ніжнім малюнку.





Паглядзеце, як лёгка можна намаляваць птушку. Намалюйце самі такую і іншыя птушкі і жывёлы.

---



---

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“. Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ.

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1654 У друку 3.490 экз. Менгарліт № 1440.